

Таямніцы беларускай мовы

# Словы родныя няродныя: запазычаная лексіка





# Ад аўтара

Беларуская мова, як і наша краіна Беларусь, — вельмі гасцінная. Здавён яна ласкава прымала ў свой склад словы з іншых моў.

Беларусь мяжуе з пяццю краінамі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой і Латвіяй. Невыпадкова, што час ад часу нашы продкі запазычвалі некаторыя словы ў суседзяў. Звычайна гэта адбывалася падчас вусных гутарак на кірмашах, агульных святах. А яшчэ новыя словы ў беларускай мове з'яўляліся праз пісьмовыя крыніцы. Напрыклад, кнігі, якія прывозілі з іншых краін нашы суайчыннікі ці замежныя госці.

Часам нашы продкі запазычвалі найменні прадметаў і з'яў у прадстаўнікоў народаў, якія жылі на нашай зямлі побач з беларусамі (палякаў, яўрэяў, татар, рускіх, украінцаў, латышоў і літоўцаў).



Частка слоў прыйшла да нас праз мовы-пасрэдніцы. Гэта значыць, што спачатку пэўная назва была ўзята адным народам у іншага,

а ўжо пасля мы, беларусы, прынялі гэтае найменне ў сваю мову.

Працэс запазычання слоў не спыняецца і сёння дзякуючы магчымасці без перашкод сябраваць і мець зносіны з прадстаўнікамі розных краін, нацыянальнасцей, веравызнання.



# Адкуль прыйшлі да нас чужыя словы?



**Этымалогія — навука, якая займаецца вывучэннем паходжання слоў.**

На думку вучоных, самыя старажытныя запазычаныя словы прыйшлі ў беларускую мову з лацінскай, грэчаскай, татарскай, нямецкай моў. У асноўным гэта найменні прадметаў, рэчаў і з'яў.

**З лацінскай мовы**, напрыклад, паходзяць словы: **арнамент, варыянт, доктар, дырэктар, каляндар, канікулы, мінус, нацыя, пенсія, пірат, плюс, рэлігія, рэспубліка, секунда, серыя, тэкст, фігура, форма, цырк, цытата, экзамен, эра**.



Доктар




Цырк

З мовы старажытных грэкаў:
акадэмія, акіян, алергія, алімпіяда, аптэка, гімн, гімнастыка, дыск, дэльфін, космас, матэматыка, піраміда, рыфма, сімвал, тэрмас, тэхніка, факел, фізіка, фінік, хірургія, школа, эпоха.


Фінікі


Дэльфін


Інжыр



Дыск


Піраміда

З татарскай (крымска-татарскай) мовы:
алмаз, біклага, гарбуз, інжыр, кадык, казак, калчан, караван, каўпак, кінжал, табун, таракан, тытунь, харч, чабан.


Гарбуз


Караван

**З нямецкай мовы**:

**абшлаг, бутэрброд, шахта, швабра, шлагбаум, шланг, шлюз, шпіён, шпора, шпроты, шпрыц, шрам, шрыфт, штанга, штат, штраф, штрых, штурм, штэкер, штэмпель, шыльда, шырма, шыфер.**







У беларускай мове таксама сустракаюцца запазычанні з моў нашых найбліжэйшых суседзяў. Так, напрыклад, **з рускай мовы** мы ўзялі словы **тайга**, **самба** (спартыўная барацьба), **омуль** (назва рыбы),




**з польскай** — **агрэст, вандраваць, відэлец, выспа, гатунак, гузік, капялюш, маёнтак, паляндвіца, пончык, рахунак, скарб, шкадаваць, шкатулка, шкарпэткі,**

**з літоўскай** — **дзірван, дойлід, коўш, куль, кумпяк.**









Прыжыліся ў нашай мове і шматлікія словы з англійскай, французскай, італьянскай, галандскай, чэшскай, іспанскай і іншых моў.

У англічан мы пазычылі, напрыклад, словы **кекс**, **бокс**, **красворд**,

у французаў — **буфет**, **кафэ**, **макіяж**,

у італьянцаў — **гірлянда**, **макароны**, **салямі**,

у галандцаў — **краб**, **шхуна**, **шторм**,

у чэхаў — **полька** (танец), **робат**,

у іспанцаў — **каньён**, **сілас**,

у румынаў — **кукуруза**, **морс**.




Салямі












Некаторыя запазычанні, асабліва гэта тычыцца старажытных моў (напрыклад, лацінскай і старажытнагрэчаскай), могуць трывала замацоўвацца ў маўленні адразу некалькіх народаў. Падобныя словы вучоныя называюць **інтэрнацыяналізмамі**.

**Інтэрнацыяналізмы — словы, аднолькавыя альбо вельмі блізкія па напісанні, гучанні і сваім значэнні, якія сустракаюцца не менш як у трох няроднасных мовах.**

Інтэрнацыяналізмамі, напрыклад, з'яўляюцца словы **тэатр**, **рэспубліка**, **тэлефон**.

**ТЭАТР**



Англійская мова **Theatre**

Балгарская мова **Театърът**

Іспанская мова **Teatro**

Латышская мова **Teātris**

Лацінская мова **Theatrum**

Літоўская мова **Teatras**

Нямецкая мова **Theater**

Руская мова **Театр**

Французская мова **Théâtre**

Шведская мова **Teater**

## РЭСПУБЛІКА




Англійская мова
**Republic**

Балгарская мова
**Република**

Іспанская мова
**República**

Латышская мова
**Republika**

Лацінская мова
**Res publica**

Літоўская мова
**Respublika**

Нямецкая мова
**Republik**

Руская мова
**Республика**

Французская мова
**République**

Шведская мова
**Republik**

## ТЭЛЕФОН



Англійская мова
**Telephone**

Балгарская мова
**Телефон**

Іспанская мова
**Teléfono**

Латышская мова
**Telefons**

Лацінская мова
**Telephonum**

Літоўская мова
**Telefonas**

Нямецкая мова
**Telefon**

Руская мова
**Телефон**

Французская мова
**Téléphone**

Шведская мова
**Telefon**

Цікава, што ёсць у свеце мовы, у якіх цалкам адсутнічаюць запазычаныя словы альбо іх колькасць вельмі малая. Такой, напрыклад, з'яўляецца так званая **высокая ісландская мова** — форма сучаснай ісландскай мовы. Падобная з'ява ў навуцы мае назву — **пурызм**.

**Пурызм — гэта залішне строгае імкненне да захавання чысціні пэўнай мовы, барацьба з любымі запазычанымі словамі і моўнымі новаўвядзеннямі, іх адмаўленне.**

паважай

*шчырая*

гавары

**БЕЛАРУСКАЯ**

твая **МОВА**

шануй

*мілагучная*

спрадвечная





# Заданне 1.

Паспрабуй вызначыць, як вучоныя называюць запазычанні з пералічаных ніжэй моў. Спалучы стрэлкамі адпаведныя пары. Калі ты выканаеш заданне правільна, то зможаш расшыфраваць, як называецца самая распаўсюджаная штучная мова свету.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Польская мова | А | балтызмы |
| 2. Англійская мова | Н | лацінізмы |
| 3. Нямецкая мова | Т | багемізмы |
| 4. Татарская мова | Р | галіцызмы |
| 5. Французская мова | С | англіцызмы |
| 6. Грэчаская мова | П | германізмы |
| 7. Лацінская мова | Е | цюркізмы |
| 8. Чэшская мова | Э | паланізмы |
| 9. Літоўская і латышская мовы | А | элінізмы |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |

# Як пазнаць запазычаныя словы?

Цікава, што запазычаныя словы можна пазнаць па некаторых асаблівых прыкметах. І такіх прыкмет даволі шмат.

Калі ў слове ёсць літара **ф**, то можна сказаць, што яно прыйшло да нас з іншых моў. Напрыклад, словы **футарал** і **фартух** з нямецкай, **фіялка** і **фігура** з лацінскай, **фантазія** і **філасофія** з грэчаскай, **фантан** і **фірма** з італьянскай.









Спалучэнне ў слове зычных **кс**, **ск**, **сп**, **пс**, **мп**, **мв**, **хт**, **шт**, **шп** таксама можа сведчыць аб тым, што яно запазычана з іншай мовы. Напрыклад, гэта можна сказаць пра **польскае слова ксёндз**, **лацінскае скульптар**, **англійскае спорт**, **грэчаскае псіхіка**, **французскае шампіньён**, **нідэрландскае яхта**, **нямецкае штаб**, **іспанскае шпага**.






Калі табе сустрэнуцца словы, якія заканчваюцца на **-ус** і **-ум**, то можна меркаваць, што яны паходзяць **з лацінскай мовы**: **вірус**, **глобус**, **корпус**, **акварыум**, **лінолеум**, **соцыум**.




**Запомні!** Калі перад спалучэннем літар **-ус** і **-ум** стаіць галосная, насуперак агульнаму правілу на канцы слоў нескладовае **ў** не пішацца.









Спалучэнне літар **дж** на пачатку слова падкажа, што яно хутчэй за ўсё запазычана **з англійскай мовы**. Напрыклад, **джынсы**, **джунглі**, **джып**, **джэм**, **джэмпер**, **джэнтльмен**.



Джынсы



Джэмпер



Джэнтльмен



Джып



Джэм




З гэтай жа мовы могуць быць запазычаны і словы, якія заканчваюца на -ёр, -ер, -эр, -ар, -інг, -ынг. Напрыклад, **баксёр**, **рэпарцёр**, **крэкер**, **дызайнер**, **сэр**, **пэр**, **прынтар**, **лідар**, **боўлінг**, **кікбоксінг**, **мітынг**, **рэйтынг**.

Калі ў словах ёсць спалучэнні літар **бю**, **пю**, **вю**, **фю**, **кю**, то яны прыйшлі ў беларускую мову **з французскай**.

Напрыклад, **бюро**, **бюлетэнь**, **капюшон**, **пюрэ**, **гравюра**, **фюзеляж**, **кювет**, **кюрэ**.







Кювет



Гравюра



Капюшон



Пюрэ




Фюзеляж

Пачатковыя галосныя **а** (непрыставачнае), **о**, **э** таксама падказваюць, што словы паходзяць з іншых моў.

Напрыклад, **абзац з нямецкай**, **абеліск з грэчаскай**, **адрас з французскай**, **адукацыя з лацінскай**, **алыча з турэцкай**, **акорд з італьянскай**, **аловак з польскай**, **апельсін з галандскай**, **армрэстлінг з англійскай**; **опера з італьянскай**, **оптыка з грэчаскай**, **ордэн з нямецкай**, **офіс з англійскай**; **эвалюцыя з лацінскай**, **эканомія з грэчаскай**, **экіпаж з французскай**, **эльдарада з іспанскай**, **эму** (страус) **з партугальскай**, **эркер з нямецкай**, **эскалатар з англійскай**.



Спалучэнне некалькіх галосных у корані слова — яшчэ адно сведчанне, што слова было запазычана.

Напрыклад, гэта тычыцца грэчаскага слова **гігіена**, лацінскага **радыяцыя**, польскага **маёнтак**, французскага **маянэз**, італьянскага **маэстра**, іспанскага **ігуана**, англійскага **канвеер**.







Схема


Герой Беларусі Уладзімір Мікалаевіч Карват

Спалучэнне літар **ге**, **ке**, **хе** ў корані слова ты можаш сустрэць, напрыклад, у словах **грэчаскіх** **герой**, **кераміка**, **схема** і **англійскіх** **гейм**, **кекс**.

Шматлікія словы, якія пазначаюць разнастайныя культурныя і мастацкія паняцці, былі запазычаны з італьянскай мовы: **акорд**, **опера**, **аперэта**, **санет**, **саната**, **арыя**, **балерына**, **фартэпіяна**, **піяніна**, **віяланчэль**, **сцэнарый**, **студыя**.



Віяланчэль



Аперэта «Містэр Ікс»



# Заданне 2.

Разгадай крыжаванку-маляванку — і ты даведаешся, як вучоныя называюць іншамоўнае слова, якое пры выкарыстанні парушае чысціню маўлення.



5



7



2



6

# Запазычаныя імёны

Цікава, што нашы продкі запазычвалі ў іншых народаў не толькі асобныя словы ці выразы, каб назваць той ці іншы прадмет або з'яву, з якімі раней не сустракаліся, але і імёны людзей.

Цікава ведаць, што імя **Агата** перакладаецца **з грэчаскай мовы** як «добрая», **Алена** — «святло»,

**Аліса** — «праўда»,

**Аляксандр** — «абаронца людзей»,



**Аляксей** — «абаронца»,
**Анатоль** — «усходні»,
**Ангеліна** — «анёльская»,
**Андрэй** — «мужны»,
**Арцём** — «здаровы»,
**Барыс** — «змагар»,
**Варвара** — «іншаземная»,
**Васіль** — «царскі»,





**Вераніка** — «тая, што нясе перамогу»,
**Галіна** — «лагодная»,
**Генадзь** — «высакародны»,
**Георгій** — «земляроб»,
**Дар'я** — «пераможца»,
**Дзяніс** — «натхнёны»,
**Ірына** — «якая нясе мір»,

**Канстанцін** — «пастаянны»,
**Кацярына** — «чыстая»,
**Кірыла** — «уладар»,
**Ксенія** — «гасцінная»,
**Ларыса** — «чайка»,
**Лявон** — «падобны на льва»,
**Маргарыта** — «жамчужына»,
**Мікалай** — «той, хто перамагае народы»,





**Мікіта** — «пераможца»,
**Настасся** — «уваскрэслая»,
**Пётр** — «камень»,
**Рыгор** — «абуджаны»,
**Софія** — «мудрасць»,



**Сцяпан** — «вянок, якім упрыгожваюць лепшых воінаў»,
**Фёдар** — «Божы дар»,
**Яўген** — «высакародны».

Лацінскія карані маюць імёны
Альбіна — «светлая»,
Антаніна — «што належыць Антонію»,
Валерыя — «бадзёрая»,
Валянціна — «здаровая»,
Віктар — «пераможца»,
Вікторыя — «перамога»,
Віталь — «жыццёвы»,
Герман — «блізкі»,








**Ігнат** — «вогненны»,
**Максім** — «найвялікшы»,
**Марцін** — «ваяўнічы»,
**Марына** — «марская»,
**Наталля** — «родная»,

**Павел** — «малы»,
**Паліна** — «малая»,
**Раман** — «рымлянін»,
**Сяргей** — «вартаўнік»,
**Эдуард** — «той, хто ахоўвае».

**Са старажытнаяўрэйскай мовы** мы таксама запазычылі даволі шмат імёнаў.

Напрыклад, імя **Адам**, якое перакладаецца як «чалавек»,
**Ганна** — «мілавідная»,
**Даніла** — «Бог — мой суддзя»,
**Ева** — «жывая»,
**Захар** — «памяць Божая»,
**Лізавета** — «тая, што шануе Бога»,
**Іван (Ян)** — «той, каго мілуе Бог»,





**Ілля** — «крэпасць»,
**Марыя** — «любімая Богам»,
**Міхаіл** — «падобны на Бога»,
**Сямён** — «пачуты Богам»,
**Тамара** — «фінікавая пальма».



Імёны Алег, Вольга, Ігар маюць **скандынаўскае паходжанне**.

**Алег** перакладаецца як «святы»,

**Вольга** — «святая».

А вось што азначала імя **Ігар** у скандынаваў, вучоныя пакуль дакладна вызначыць не могуць.

Імя **Вадзім** беларусы пазычылі **ў рускіх,** дзе першапачаткова гэта слова было найменнем для забіякі.

Некаторыя вучоныя лічаць, што імя **Якуб** мае **арабскае паходжанне** і перакладаецца як «караць, праследаваць».

**Навуковая галіна, прысвечаная вывучэнню ўласных імён, называецца анамастыкай.**



## Заданне 3.

Рашы літарныя рэбусы — расшыфруй імёны.

А

ІГ

ТОЛЬ

НАТ

Я

ССЯ

НА

ЛЛЯ

ТА

ГЕ

ДЗЕ

ДЗЬ

СТА

# Слоўнікі-дапаможнікі

Калі ты не ведаеш значэння пэўнага слова альбо не памятаеш, як яно пішацца, дапамагчы табе зможа даведачная літаратура. Гэта тычыцца і слоў запазычаных, для якіх, прынамсі, ёсць адпаведныя слоўнікі.

Вядомы беларускі вучоны Аляксандр Мікалаевіч Булыка склаў слоўнік, у які ўвайшло каля 25 тысяч іншамоўных слоў, што сёння выкарыстоўваюцца ў маўленні нашымі суайчыннікамі.

У кожнага слова, змешчанага ў гэтым слоўніку, пазначаны націск, прыводзяцца звесткі пра яго паходжанне і мову-першакрыніцу, а таксама тлумачыцца яго значэнне.




Булыка А.М.
Слоўнік іншамоўных слоў

Безумоўна, немагчыма вывучыць і ведаць значэнне ўсіх запазычаных слоў, што прысутнічаюць у сучаснай беларускай мове. Ды гэтага і рабіць зусім не варта. Аднак калі ты навучышся карыстацца даведачнай літаратурай і не будзеш саромецца і ленавацца звяртацца да яе пры неабходнасці, то колькасць вядомых табе слоў будзе паступова павялічвацца, і ты хутчэй зможаш запомніць іх правапіс, які адаб'ецца ў тваёй памяці.



Каляндар



Відэлец



Робат



Макароны



# Заданне 4.

Размяркуй прыведзеныя ніжэй словы па адпаведных слупках табліцы. Пры неабходнасці звярніся да слоўніка іншамоўных слоў, каб даведацца пра значэнне пэўнага слова.

| Танец | Тканіна | Кветка | Птушка |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

Атлас Джэрсі

Ківі Беркут

Вельвет Страус

Лаванда Румба

Самба Калібры

Фламенка Флёкс

Півоня Нарцыс

Танга Фланель

# Адказы на заданні

**Заданне 1.**

Польская мова — паланізмы,
англійская — англіцызмы,
нямецкая — германізмы,
татарская — цюркізмы,
французская — галіцызмы,
грэчаская — элінізмы,
чэшская — багемізмы,
літоўская і латышская — балтызмы.



| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Э | С | П | Е | Р | А | Н | Т | А |

## Заданне 2.



– Д Б – – Г – – –
– О У – Ч І Г – –
– К Т – А Т А – Л
– Т Э – М А Р Д Я
В А Р В А Р Ы З М
А Р Б У Д А Л І П
З – Р Л А – А Д А
А – О К Н – – А –
– – Д А – – – – –
– – – Н – – – – –

Заданне 3.



Анатоль

Наталля

Генадзь

Ігнат

Надзея

Настасся





## Заданне 4.

| Танец | Тканіна | Кветка | Птушка |
| --- | --- | --- | --- |
| румба | атлас | лаванда | беркут |
| самба | вельвет | нарцыс | калібры |
| танга | джэрсі | півоня | ківі |
| фламенка | фланель | флёкс | страус |





# Змест

УДК 087.5:811.161.3
ББК 81.2Беи
З-50

Серыя заснавана ў 2017 годзе
Для малодшага школьнага ўзросту

**Зелянко, С.В.**
З-50 Словы родныя няродныя: запазычаная лексіка : для мал. шк. узросту / С.В. Зелянко. — Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2018. — 48 с. : іл. — (Таямніцы беларускай мовы).
ISBN 978-985-11-1049-6.

У беларускай мове ёсць словы, запазычаныя з іншых моў. Яны пранікалі ў беларускую мову на працягу ўсяго гістарычнага перыяду яе развіцця рознымі шляхамі, аднак з цягам часу прыжыліся і ўжо сёння ўспрымаюцца як спрадвечна беларускія. Сакрэтамі выяўлення такіх слоў у беларускай мове дзеліцца аўтар кнігі Сяргей Зелянко. Акрамя карысная інфармацыі выданне дапоўнена займальнымі заданнямі, якія дазволяць яшчэ лепш засвоіць матэрыял.

**УДК 087.5:811.161.3**
**ББК 81.2Беи**

---

*Навукова-папулярнае выданне*

Таямніцы беларускай мовы

**Зелянко** Сяргей Віктаравіч




**СЛОВЫ РОДНЫЯ НЯРОДНЫЯ:**
**ЗАПАЗЫЧАНАЯ ЛЕКСІКА**

Рэдактар В.В. Давідовіч
Мастацкае афармленне, камп'ютарная вёрстка: А.А. Кустова
Карэктары: І.М. Гудава, В.М. Чудакова

Падпісана ў друк 30.01.2018. Фармат 50×84 $^{1}/_{8}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 4,67. Ул.-выд. арк. 4,95. Тыраж 1000 экз. Заказ 109.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/1 ад 08.07.2013.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Дзяржаўнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/42 ад 13.02.2014.
Вул. В. Харужай, 13/61, 220123, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

**ISBN 978-985-11-1049-6**